# НАВУКОВЕЦ І ПІСЬМЕНЬНІК СУСЬВЕТНАГА ВЫЗНАНЬНЯ

ПРАФ. К. ТАРАСЕВІЧ

Сярод беларускай творчай інтэлігэнцыі ў Амэрыцы выразна вылучаецца на першае месца імя выдатнага навукоўца й пісьменьніка *ЎЛАДЗІМЕРА ГЛЫБІННАГА*. 24 сьнежня 1980 г. Уладзімеру Глыбіннаму спаўняецца 70 гадоў з дня нараджаньня. А пацьдзесят гадоў творчай плённай працы ўжо споўнілася ўлетку 1979 г., бо якраз улетку 1929 г. У. Глыбінны надрукаваў свой першы твор – рэцэнзію на чарговы нумар літаратурна-мастацкага часапісу „УЗВЫШША". На сходзе літаратурнага згуртаваньня „Узвышша" з прычыны трох гадоў з часу запачаткаваньня тае арганізацыі лідар „Узвышша" Адам Бабарэка ў сваім дакладзе тады ссылаўся на гэтую рэцэнзію, як на прыклад дадатнага стаўленьня да творчага кірунку ўзвышэнцаў з боку інтэлігэнцыі.

У гадох 1929–1933 Уладзімер Глыбінны друкаваўся ў часопісах „Маладняк" і „Полымя" і йншых выданьнях, стаўся сябрам БелАПП'а, а пазьней Агркамітэту Саюзу Пісьменьнікаў. Але ў сакавіку 1933 г. літаратурная дзейнасьць Уладзімера Глыбіннага была перапыненая арыштам, як нацыянал-дэмакрата, і трохгадовым зьняволеньнем у Заходня-Сібірскіх, а пазьней у Байкал-Амурскіх лягерах. Пасьля адбыцьця тэрміну зьняволеньня яму было забаронена вярнуцца да літаратурнай дзейнасьці. Адно толькі схаваўшы свае ўвязьненьне, Уладзімер Глыбінны здолеў знайсьці працу выкладчыка, а пазьней, пасьля сканчэньня ўнівэрсытэту, праз экстэрнат здабыў і доктарскую ступень у галіне філялёгіі. Але ў першыя-ж дні вайны зноў быў арыштаваны ў Менску, далучаны да першага этапу на ўсход. Рызыкуючы жыцьцём, у першую-ж ноч уцёк з этапу арыштантаў па дарозе ў Сьмілавічы й пасьля доўгіх блуканьняў па ўзбочным дарогам вярнуўся да бацькоў у Менск. Знайшоў сваіх старых на пажарышчы пад адчыненым небам. У вагні загінула ўся бібліятэка, якую зьбіраў праз усё дасюлешняе жыцьцё, перахоўваючы на кватэры бацькоў. Згарэлі рукапісы твораў, забароненых да друку, такіх аўтараў, як Уладзімер Жылка, Язэп Пушча, Уладзімер Дубоўка, Лукаш Калюга, Сяргей Астрэйка, сярод іх – славутая паэма апошняга – „Бэнгалія" на тэму паняволеньня Беларусі накшталт далёкай Бэнгаліі, тэкст якой Уладзімеру Глыбіннаму ўдалося перапісаць у часе наведаньня разам з аўтарам, бліжэйшым сябрам Сяргеем Астрэйкай, ягонае роднае вёскі Каласоўшчына на Случчыне. Асабліва шкада было спаленых аўтографаў паэтаў і пісьменьнікаў – ахвяраў перасьледваньня, бо йх ужо не аднавіць.

Але глыбока пусьціў карэньні асялок творцы ў гэтым чалавеку, нахіл да бязупыннай творчай дзейнасьці. І вось у жахлівых умовах акупацыйнага рэжыму Глыбінны знаходзіць у сабе досыць сілаў, каб распачаць азнаямленьне народу з сваім слаўным мінулым. Ягоныя артыкулы – „Беларускі дзяржаўны муж – Леў Сапега", „Залаты век", „Жыве Беларусь!" (вызвольнае змаганьне беларускага народу ў 17–18 стагодзьдзях), „Смаленшчына – адвечна беларуская зямля", „Наваградак ўчора й сяньня", „Змагар за волю народа (Кастусь Каліноўскі)", „Лёс Менскіх цэркваў", „Беларуская царква", „Беларуская школа", „Беларускі настаўнік", „Вяліқдзень", „Каляды на Беларусі", „Беларускае Палесьсе", „Менскі Белпэдтэхнікум", „Прыгожая Беларусь", „Багацьці Беларусі", „Беларускія сяляне" і йншыя – будзілі народную думку, што край наш і багаты й прыгожы, слаўны сваім мінулым, а працавіты й дасьціпны народ здольны й да творчае працы й да свайго нацыянальнага адраджэньня. Колькі працаў з галіны беларускага мастацтва, як „Народны кампазытар – Туранкоў", „З народу – у народ (Ул. Тэраўскі)", „Народная песьня", „Народныя танцы", „Народныя музычныя інструмэнты", „Беларускі арнамэнт", „Слуцкія паясы", „Вытокі беларускага мастацтва" і йншыя артыкулы заклікалі народ на агульна-Эўрапэйскі Алімп. Кніга Ўладзімера Глыбіннага „БЕЛАРУСКАЕ МАСТАЦТВА" з вокладкай работы мастака Тычына ўжо была ў друку ў 1944 г., але падзеі вайны запынілі ейны выхад у сьвет. У ёй даваўся абраз беларускае архітэктуры, малярства, разьбярства, графікі, скульптуры й іншых галінаў выяўленчага мастацтва на Беларусі за колькі стагодзьдзяў на фоне змаганьня заходне-эўрапэйскіх мастацкіх стыляў, рэнэсанса, барока, ракако ў іхнім самабытным адтварэньні на беларускай глебе. У кнізе шырака асьвятляліся старажытныя беларускія малярскія школы, як Віцебская, Магілеўская ў 17 і 18 стагодзьдзях, помнікі старажытнага беларускага мастацтва ў абразох Кракаўскіх і Сандамірскіх касьцёлаў у Польшчы за часоў Ягайлы й ягоных нашчадкаў.

Такі-ж сумны лёс падзялілі з-за вайны й іншыя вялікія кнігі Ўладзімкра Глыбіннага: „ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ" на 500 балонак і ўжо набраная ў 1944 г. кніга „БЕЛАРУСКІ ТЭАТАР". У вагні вайсковага ходаньня вялікіх варожых сілаў загінулі шматгадовыя высілкі беларускага навукоўца.

Сярод літаратурна-крытычных працаў Уладзімера Глыбіннага таго часу тут варта назваць гэткія адтварэньні цэласьці паэтычнага сьвету паэтаў, як „Паэта высокае культуры (Уладзімер Жылка)", „Паэта ваяўнічай нацыяналістычнай думкі (Вацлаў Ластоўскі)", „Волат беларускага мастацкага слова (Янка Купала)", „Паэтычнае адтварэньне пережытага (М. Сяднёў)", артыкулы пра Максіма Багдановіча, Францішка Аляхновіча і Ўладыслава Галубка.

Цяпер заслугоўвае прыпаміна той факт, што У. Глыбінны перативарыў часапіс „НОВЫ ШЛЯХ" у друкаваны орган беларускага супраціву нямецкім акупантам. Антынямецкія вершы Ўладзімера Дудзіцкага „Мы ня хочам быць белымі нэграмі", забароненыя ў Менску, друкуюцца ў „Новым шляху" ў Рызе. Там-жа знаходзяць сабе месца антыакупацыйныя вершы Сяргея Пяюка, Алеся Салаўя й іншых. Заместа вымаганае нямецкае прапаганды ў „Новым шляху" друкуецца адно чыстая лірыка Салаўя, Сяднёва, Вольгі Таполі й іншых паэтаў. Нарэшце, ськіваная супраць усіх акупантаў п'еса Францішка Аляхновіча „Круці ня круці – трэба памярці" ды ўспаміны таго-ж аўтара „Страшны год" знайшлі сябе надрукаванымі на балонках „Новага шляху". Аляхновічаву п'есу пазьней „Новы шлях" выдаў і асобнай кніжыцай, запярэчваючы тым самым забарону кнігадрукаваньня ў акупаванай немцамі Беларусі. Уладзімер Глыбінны меў мужнасьць, ня ў прыклад многім іншым, што часьцей адно „яволілі", супрацьставіць ціску акупантаў і нямецкай цэнзуры ў Менску (Сівіцы й ягоных памагатых) сваю нацыянальную дасьпеласьць і чалавечую годнасьць. Пад сталай пагрозай канцлягеру або й сьмерці Глыбінны не зламаўся, а вартасна й стала рабіў усё, каб часапіс служыў ня чужым, а нацыянальным інтарэсам. Дабро бацькаўшчыны й свайго народу супрацьставілася чорным сілам фашызму. І таму было дасягнута тое, што „НОВЫ ШЛЯХ" стаўся першым у гісторыі найноўшых беларускіх друкаў ілюстраваным двухтыднёвікам заходне-эўрапэйскага тыпу.

Яшчэ ў часе вайны У. Глыбінны напісаў мастацкі нарыс „Над Вяльлёю". Пасьля вайны піша раман „ВЯЛІКІЯ ДАРОГІ" аб долі беларускага адраджэнца пад рознымі акупантамі й за мяжой. Пошукам зямное прыгожасьці прысьвечаны зборнік апавяданьняў і аповесьцяў У. Глыбіннага „НА БЕРАГОХ ПАД СОНЦАМ", які выйшаў з друку ў 1964 г. у Ню Ёрку. Ягоныя гэроі ўзносяцца над шэрым буднем сваімі рамантычнымі пошукамі цэласнага чалавека, не адарванага ад сьвету прыроды й ейнай красы. Зборнік „На берагох пад сонцам" сваёй філязофіяй сьцьвярджае гэрояў, што ўзьняліся на ўзвышшы танчэйшае сусьветнае культуры й разам з тым гарманічна спалучаюць адчуваньне Божага твару зямлі – некранутай чалавечай псотай, ува ўсёй сваёй чароўнай красе прыроды – лясоў, палёў, рэк і вазёраў, зялёных лугоў, сіняга неба, птушыных сьпеваў і галасоў усяго жывога, што славіць Бога. Як водгульле Бацькаўшчыны ў шырокім сьвеце гэта выдатны здабытак беларускага прыгожага слова замяжой.

Пачынаючы ад верасьнёвага нумару 1969 г. праз колькі нумароў часапісу „Божым Шляхам" У. Глыбінны радаваў і цешыў пабожнага чытача сваімі нарысамі-ўспамінамі аб Сьвятой Зямлі. У 1972 г. у выдавецтве „Божым Шляхам" яны вышлі асобнай кніжкай „На Сьвятой Зямлі". У ёй чытач разам з паломнікам Усеваладам Ціхановічам праходзіць Крыжовым Шляхам Хрыстовым і зазнае радасьць запазнаньня з зямлёю, па якой хадзіў, навучаў, пакутваў і ўваскрос сам Богачалавек. Гэта першае ў беларускай мове апісаньне Сьвятых месцаў Палестыны, падрабязная мастацкая справаздача з падарожжа-паломніцтва ў форме спалучэньня белетрыстычнае задумы з фактычнай дакладнасьцяй. Нарыс „На Сьвятой Зямлі" ўвабраў і па-мастацку адтварыў глыбокія думкі й пачуцьці беларускага паломніка, шчырыя перажываньні й веру Ўсевалада, аднаго з тых беларусаў, якім пашэньціла адведаць радзіму Хрыста.

Плённая выдавецкая й творчая дзейнасьць Уладзімера Глыбіннага сягае і ў нашы дні. Гэтак, кагадзе вышла ў Ню Ёрку новая кніжыца Ўладзімера Глыбіннага „ПАЭТА З БОЖАЙ ЛАСКІ. Успаміны і роздум пра Язэпа Пушчу (1902–1964)". У ёй упяршыню ў беларускай крытыцы даецца поўны абраз гэтага выдатнага беларускага паэты-імажыністага, раскрываюцца паэтычныя скарбы ягоных раньніх зборнікаў „Раніца рыкае", „Дні вясны", аналізуецца зборнік паэзіі „Песьні на руінах", прачытаная йдэя першае паэмы, як сьцьверджаньне йдэі Бацькаўшчыны, як крыніцы духовай і матар'яльнай красы, і мастацтва, як сродка асэньсаваньня і ўпрыгожаньня жыцьця. Паэма „Цень Консула" прачытана, як твор, што ставіць акупантаў да ганебнага слупа. Зьнішчальная сіла Пушчавай гіроніі й сатыры ў кнізе У. Глыбіннага ўдала сьцьвярджаецца дакладным аналізам Пушчавага твору „Лісты да сабакі" ды расчыненьнем сэнсу вобраза Мярохі з паэмы „Сады вятроў". Незабыўным паўстае з кнігі паэта Язэп Пушча з ягонай апэляцыяй да аўтарытэту сусьветна знанага Рабіндраната Тагора адносна „народаў забраных", г.зн. тагочаснае Бэнгаліі й Беларусі. Трывалым успамінам зьяўляецца апісаньне факту перадачы арыгінальнага й ангельскага перакладу тэкста верша Язэпа Пушчы „Рабіндранату Тагору" ў 1961 г. колішняму сэкратару пісьменьніка, доктару Амію Чакраварты для перадачы ў Музэй і Архіў Тагора ў Калькуце. Гэтак Язэп Пушча стаўся фактарам шырокіх міжнародных культурных кантактаў.

Ад кастрычніка 1951 г. Уладзімер Глыбінны актыўна рэпрэзэнтуе беларускую культуру й навуку на Амэрыканскім кантынэньце. Колькі гадоў працаваў у якасьці старшага навукоўца супрацоўніка дасьледчай праграмы пры Калюмбійскім унівэрсытэце ў Ню Ёрку. Тады-ж напісаў вялікую кнігу пра беларускі тэатр і драму, якая ў 1955 г. вышла друкам па-ангельску ў Ню Ёрку (THE BYELORUSSIAN THEATER AND DRAMA, Research Program on the USSR, Columbia University, New York, 1955, 517 pp.). Гэтая праца й да гэтага часу нідзе яшчэ не пераўзыйдзена, у тым ліку й на Бацькаўшчыне, як адзіная ў замежным сьвеце, шырокая па ахопу матар'яла й глыбіні аналізу гісторыя-тэатральнай культуры беларускага народу. Гэта глыбокая падстава лічыць беларусаў культурнай нацыяй у Эўропе. Вылучная каштоўнасьць гэтага выданьня яшчэ павялічваецца й тым, што кніга мае шмат рэдкіх ілюстрацыяў, якіх ужо не знайсьці цяпер і на Беларусі пасьля ваенных забурэньняў. Нездарма нават савецкі агляднік, атакуючы працу за нацыяналістычны напрамак, прызнаў яе вартасьць з гледзішча фактычнага матар'ялу (А. Бруханский „Изучение или фальсификация", РУССКАЯ ЛИТЕРАТУРА №1, 1959 г.). Праф. Пётра Яршоў на балонках „Русской Мысли", „Нового Русского Слова" і „Амэрыкан Слэвік энд Іст Юропіен Рыўю" за красавік 1956 г. прывітаў гэтую кнігу, як вялікі ўклад у справу вывучэньня тэатра й драмы. Ён асоба адзначыў крытычны дар прасякненьня ў душу тэатральнага мастацтва, тонкі аналіз усіх зьменаў, якім быў падпарадкаваны савецкі тэатр ува ўмовах партыйнай палітыкі. Праф. Яршоў ацаніў шырокую канцэпцыю аўтара, культурнае й эстэтычнае значаньне працы. „Каштоўная кніга *Беларускі тэатр і драма* расказвае аб тым, што так мала вядома на Захадзе й аб чым з такой горкай праўдзівасьцю немагчыма расказаць у СССР... Добра-сумленны вучоны, аўтар меў на ўвазе адмысловую тэму, але кніга ягоная, жыва напісаная, даступна й вельмі цікавая для любага чытача, які сур'ёзна цікавіцца гісторыяй тэатра. Больш таго, – па паўнаце вестак і па шырыні ахопу агромністага матар'ялу, яна –

(працяг на 7-й бачынцы)

*(працяг з 6-й бачынкі)*

павучальны мікракосм, лёкальнае адлюстраваньне таго трагічнага шляху, па якому вымушана пакуль ісьці мастацтва падсавецкіх народаў," – пісаў П. Яршоў. А праф. Н. Вакар прывітаў гэтую працу, як першую ў замежнай літаратуры, грунтоўную, што ставіць ацэнкі й заключэньні на цьвярдую глебу, працу аб беларускай культуры з часоў Насовіча, Шэйна, Раманава й Карскага. У гэткім духу выказваліся часапісы „Рашан Рыўю", „Белорашан Рыўю", „Українська Літаратурна Газета" ў Мюнхене, амэрыканскі журнал „Букс Эброд" і іншыя выданьні.

У 1963 г. у сэрыі Бібліятэкі БЕЛАРУСКАЕ ДУМКІ ў Нью Ёрку вышла праца Ўладзімера Глыбіннага „СМАЛЕНШЧЫНА – АДВЕЧНАЯ ЗЯМЛЯ БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ, Гістарычны нарыс". У ім на падставе гістарычных дакумантаў, падзеяў гісторыі, натуральных межаў, моўных і этнаграфічных асаблівасьцяў пераканаўча даводзіцца, што смаленцы – неадрыўная частка беларускага народу й Смаленшчына павінна належаць Беларусі, як яе ўсходня-паўночная частка. Праца гэтая выклікала злосные нападкі на аўтара ў савецкай прэсе й на яе ссылаюцца ў выданьнях Акадэміі Навук БССР. Цікава, што з крытычнымі заўвагамі выступіў д-р Янка Станкевіч у сваім лістку *„Незалежнік", №3.* Атрымалася цікавая дыскусыя, калі У. Глыбінны ў адказ *„Незалежніку"* ў сваім артыкуле „Ці-ж было Вялікае Княства Літоўскае незалежнай беларускай дзяржавай у 17 і 18 стагодзьдзях?" (*„Беларускі Голас" №182 і 183,* 1970 г.), на падставе багацейшых матар'ялаў і гістарычных фактаў давёў, што пасьля Люблінскай і Берасьцейскай вуніі на Беларусі пачынаецца наступ польскага каляніялізму, які прывёў да страты беларускай незалежнасьці ў 17–18 стагодзьдзях праз пераняцьце функцыяў беларускага парлямэнтарызму „спольным" польскалітоўскім сэймам. І калі палякам, аднак, не ўдалося цалкам апалячыць карэннае беларускае насельніцтва, дык тут сказаўся моцны нацыянальны дух апошняга, якое трымалася сваёй мовы спакон вякоў і не далося зьіначыць сябе на чужацкі лад. Дзякуючы гэтаму наш край і захаваўся, як самабытная нацыянальная адзінка сярод народаў сьвету. „Пара ўжо беларускім гісторыкам пакінуць займацца перасказам дынастычнае хронікі, а сур'ёзна распачаць вывучэньне карэнных падзеяў нашае гісторы і пераглядзець ды перааацаніць нашу мінуўшчыну з гледзішча беларускага народу, як асноўнага дзейніка гістарычных рухаў, каб зрабіць належныя высновы, што вучылі-б нас, што адно на собскія сілы мы можам пакладацца, каб дамагчыся незалежнасьці і росквіту нашага забранага краю", – робіць выснаў У. Глыбінны ў тым артыкуле.

Шмат працаў У. Глыбіннага зьмешчана ў „ЗАПІСАХ", *„Новом журнале"*, „ВЕСТНІКУ" Інстытуту вывучэньня СССР, *„Беларускім Зборніку", „Современнике", „Конадняx"*, „ЗАПЙСКАХ" Русской Академической групы в США, „ОСТ-ЭЎРОПА" і іншых выданьнях. У 1959 г. Мюнхенскі Інстытут вывучэньня ССР выдаў кнігу Ў. Глыбіннага „ДОЛЯ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ ПАД САВЕТАМІ" а ў нямецкай мове тая-ж праца была выдадзеная пад назовам: „VIERZIG JAHRE WRISSRUTHENISCHER KULTUR UNTER DEN SOWJETS", München, 1959.

Навуковая праца „ДОСТОЕВСКОВЕДЕНИЕ В СССР" здабыла найвышэйшую ацэну й вышла на першае месца сярод працаў Мюнхенскага Інстытуту вывучэньня СССР. Паводле „Праэкта ацэны" йнстытуцкіх працаў амэрыканскімі вучонымі, працай *„Достоевсковедение в СССР"* карыстаюцца студэнты й прафэсары Гарвардзкага, Бастонскага, Канзаскага, Каліфарнійскага й іншых Унівэрсытэтаў ЗША, у Гамбургскім і іншых нямецкіх унівэрсытэтах, у Вітон Каледжы й шмат іншых навучальных установах. Калі ўлічыць, што аўтары „Праэкта Ацэны" вельмі крытычна паставіліся да іншых працаў Мюнхенскага Інстэтуту, дык тады перамога У. Глыбіннага робіцца асабліва значнай і відавочна сьведчыць аб здатнасьці беларускае навукі ўзьняцца на сусьветны ўзровень і даць нешта сваё сьвету. Тут яшчэ цікава адзначыць, што У. Глыбінны ўпяршыню ў сьвеце ўвёў ува ўжываньне слова „достоевсковедение", якое да яго ніхто нідзе ня ўжываў, а пасьля зьяўленьня працы *„Достоевсковедение в СССР"* шырака пайшло ў сьвет і цяпер ужываецца ў сусьветнай дастаеўскаведзе. Як Дастаеўскі ганарыўся, што ён увёў і зрабіў шырока ўжываным слова „стушевался", „стушеваться" ў сэнсе незаўважна зьнікнуць, гэтак і Ў. Глыбінны мае права ганарыцца, што ён увёў у навуку новае слова „достоевсковедение", у сэнсе „веда аб Дастаеўскім", „літаратурная навука аб Дастаеўскім".

Сусьветны водгук здабыла кніга Ў. Глыбіннага *„Достоевский в русской литературной критике, 1846–1956"*, выдадзеная Выдавецтвам Калюмбійскага Ўнівэрсытэту ў Нью Ёрку ў 1957 г. Яна была адразу ўзятая на паліцы ўсіх галоўных каледжаў і ўнівэрсытэтаў Амэрыкі, Канады, Аўстраліі й Эўропы. Аб ёй пісалі газэты й часапісы ў Парыжы, Лёндане, Нью Ёрку, Вашынгтоне, Бастоне, Сан Францыска, Амстардаме й Токіё. Не абмінулі згадкаў пра яе нават у Маскве, у *„Литературной Энциклопедии"* ў артыкуле праф. М. Бахтіна. Буйнейшыя славістыя сьвету віталі яе як цудоўна напісаную й важную для навуковага літаратуразнаўства кнігу, выказваліся аб ёй як сьведчаньні таго, што „літаратурная крытыка можа быць высокім мастацтвам". Праф. Эрнэст Сіманс з Калюмбійскага Ўнівэрсытэту пісаў пра яе, як кнігу „ўсеагульнае цікавасьці й высокай навуковай вартасьці". Часапіс „Пэрсаналіст" ад 30 студзеня 1959 г. вітаў яе ад імя амэрыканскіх вучоных як „апошняе слова ў галіне вывучэньня „Дастаеўскага", аднаго з вялікшых мастакоў слова. Колькі радыёстанцыяў прысьвяцілі кнізе Ў. Глыбіннага адмысловыя перадачы ў ангельскай нямецкай, францускай і йншых мовах. Калі ўлетку 1958 г. кніга У. Глыбіннага была перавыдадзеная і ў Лёндане ў выдавецтве Аксфордскага Ўнівэрсытэту, літаратурны дадатак да газэты „ТАЙМС" ад 29 жніўня 1958 г. прысьвяціў ёй першыя дзьве балонкі, вітаў аўтара й выдавецтва з „запраўды чароўнай і павучальнай кнігай". Ён адзначыў асабліва глыбокае пранікненьне ў сутнасьць творчасьці сусьветна вызнанага пісьменьніка й сьмеласьці аналізу.

У пачатку 1961 г. вышла ў сьвет праца Ў. Глыбіннага на францускай мове: LES RÉCENTS DÉVELOPMENTS DES ÉTUDES SUR DOSTOIEVSKY EN UNION SOVIÉTIQUE (1955–1960). Problemes Sovietiques, Institut d'études sur l'U.R.S.S. Décembre 1960, 132 pp. Францускія вучоныя віталі гэтую працу, як вялікі ўклад у навуковае літаратуразнаўства. Парыжская газэта „COMBAT" зьмясьціла вялікі агляд гэтае працы пяра Гэнры Казалса, а колькі радыёвых станцыяў перадалі пераказ кнігі. Часапіс „СЛЭВІК РЫЎЮ" за верасень 1962 г. назваў працу „стымулюючай". Праф. Е. Сімас пісаў аб ёй, як „важным укладзе ў навуку."

З 1959 г. на працягу 17 гадоў У. Глыбінны працаваў прафэсарам найноўшых моваў і літаратуры пры Школе Гуманістычных і Сацыяльных навукаў Рэнсэлірскага Палітэхнічнага Інстытуту ў горадзе Трой, Нью Ёрк, дзе стаяў на чале Расейскай праграмы. Акрамя таго, з 1959 і па 1963 г. ўлучна працаваў прафэсарам літаратуры ў летняй аспіратуры пры Міддэльбуры Калэдж, дзе чытаў курсы па Гісторыі Расейскага Мастацтва, Льву Талстому, Дастаеўскаму, М. Горкаму, гісторыі расейскага апавяданьня й іншыя курсы. У 1967 г. чытаў лекцыі ў Віндам Калэджы, а ў 1969 г. – у асьпірантуры Іллінойскага Ўнівэрсытэту. Пасьля паездкі ў Сьвятую Зямлю ў 1966 г. выступаў у шэрагу калэджаў з лекцыямі й дэманстрацыяй фільму аб Сьвятым Горадзе. У 1976 г. Рэнсалірскі Палітэхнічны Інстытут надаў У. Глыбіннаму годнасьць *заслужанага прафэсара.*

Вызнаньне У. Глыбіннага ў сусьветным маштабе замацавана такімі амэрыканскімі й замежнымі энцыкляпэдычнымі выданьнямі, што зьмясьцілі жыцьцяпіс навукоўца: DICTIONARY OF AMERICAN SCHOLARS, WHO'S WHO IN AMERICAN EDUCATION, WHO'S WHO IN THE EAST (1969), COMMUNITY LEADER OF AMERICA, DICTIONARY OF INTERNATIONAL BIOGRAPHY, MEN OF ACHIEVEMENT, INTERNATIONAL SCHOLARS DIRECTORY, THE INTERNATIONAL AUTHORS AND WRITERS WHO'S WHO, CONTEMPORARY AUTHORS, INTERNATIONAL WHO'S WHO IN COMMUNITY SERVICE, COMMUNITY LEADERS AND NOTEWORTHY AMERICANS, NOTABLE AMERICANS OF THE BICENTENNIAL ERA і іншыя выданьні.

У. Глыбінны быў узнагароджаны сем разоў ганаровымі ўзнагародамі й колькі разоў ганаровымі дактаратамі за выдатныя асягненьні ў галіне літаратуры й навукі.

У 1969 г. ангельская кніга У. Глыбіннага пра




Дастаеўскага ў літаратурнай крытыцы была перавыдадзеная выдавецтвам ОНТАГОН у Нью Ёрку й такім чынам зноў сталася даступнай шырэйшым колам амэрыканскіх і замежных фахоўцаў.

За апошнія гады Ў. Глыбінны збагаціў сусьветную дастаеўскаведу двума вялікімі энцыклапэдычнымі працамі. У 1975 г. вышла ў сьвет ягоная кніга: DOSTOEVSKI'S IMAGE IN RUSSIA TODAY, Nordland Publishing Company, Belmont, Mass., 508 pp. А ў 1977 г. вышла ў сьвет фундамэнтальная кніга, што ўзяла 20 гадоў працы: DOSTORVSKY IN RUSSIAN AND WORLD THEATRE with 130 illustrations and photographs from major Dostoevsky proructions, the Christopher Publishing House, North Quincy, Mass., 435 pp. Гэтыя кнігі як і папярэднія, выклікалі новае сусьветнае рэха ў друку й нават трапілі на кніжную выстаўку Сусьветнага Славянскага Кангрэсу ў Загрэбе, Югаславія, у лістападзе 1977 г., а адтуль на сталую выстаўку выдатных прац з галіны славянаведы. Усе вучоныя віталі зьяўленьне гэтых працаў, як новую магчымасьць далейшых паглыбленьня ведаў аб Дастаеўскім і расчыненьня новых аспэктаў мастацтва вялікага майстра мастацкага слова.

На працягу многіх гадоў У. Глыбінны быў віца-старшыня Нью Ёрскага й Нью Джэрскага аддзелу Амэрыканскай Асацыяцыі Настаўнікаў Славянскіх і Ўсходня-Эўрапэйскіх Моваў, віцастаршынёй Паўночна-Амэрыканскай Асацыяцыі Дастаеўскаведаў і Амэрыканскім Прадстаўніком у Інтэрнацыянальнай Асацыяцыі Дастаеўскаведаў. Ён быў ініцыятарам стварэньня Інтэрнацыянальнае Асацыяцыі Дастаеўскаведаў і чытаў даклады на ўсіх чатырох дасюлешніх Сымпозыюмах апошняй. З 1959 г. і да сяньня У. Глыбінны зьяўляецца Прэзыдэнтам Беларуска-Амэрыканскага Літаратурна-Навуковага Цэнтру ў горадзе Трой, які выдаў зборнік апавяданьняў і аповесьцяў „НА БЕРАГОХ ПАД СОНЦАМ".

Некалі наш Максім Багдановіч глыбокадумна выказаў, што адно ўносячы сваю долю ў скарбніцу сусьветнай культуры, творачы агульна-чалавечыя каштоўнасьці, можна дамагчыся сусьветнага вызнаньня й беларускай культуры. Плённая творчая праца Ўладзімера Глыбіннага, вызнаная ўсім сьветам, ладне прычыняецца пачэснай мэце знайсьці й замацаваць месца беларусам на мапе нацыянальных культураў, што служаць усяму чалавецтву. Дай-жа, Божа, спору ў ягонай плённай працы й доўгіх, доўгіх гадоў жыцьця чалавеку велічнага творчага чыну.



# Decolonization of the USSR

(continued from page 1)

**TO ALL MEMBERS OF THE UNITED NATIONS 35th GENERAL ASSEMBLY**

Your Excellency:

We, the undersigned representatives of six non-Russian nations which have been coerced into the Union of Soviet Socialist Republics under the misguided misnomer "Union Republics," appeal to you in earnest and serious fashion to help the persecuted millions of our bretheren under Soviet Russian totalitarian and colonial rule in their struggle for their God-given right to freedom and national independence through peaceful, non-violent process of the decolonization of the Soviet Union.

Contrary to the official Soviet "doctrine" to the effect that the Soviet Union is a "free and voluntary federation" of various nations and peoples, it is, by all legal and political standards, a totalitarian empire, ruled despotically by an elite Communist government dominated by Russian nationality.

In the new Soviet Constitution, adopted by the Supreme Soviet of the USSR on October 7, 1977, Art.70 defines the USSR as "an integral, federal, multinational state formed on the principle of socialist federalism as a result of the free self-determination of nations and the voluntary association of equal Soviet Socialist Republics." All this is simple, verbal camouflage that is wholly lacking in validity as compared with the dreary Soviet political reality.

Art.72, of the same Soviet Constitution, even audaciously proclaims that "Each Union Republic shall retain the right freely to seceede from the USSR." The world still remembers what happened to Hungary in 1956 and to Czechoslovakia in 1968, and more recently to Afghanistan (in the fall of 1979). We may soon witness the spectacle of hapless Afghanistan joining the USSR "voluntarily" as the 16th "Union Republic" of the USSR.

Although the Soviet Union makes much ado about its "championing" of the colonial peoples of Africa and Asia, it would never concede that it oppresses and dominates over 100 million persons of non-Russian nationality, not counting the people of the satellite countries of Eastern-Central Europe and the newly acquired subservient "clients" in Africa.

It is a tragic paradox that the Soviet Union should enjoy a sort of sacred immunity from the wave of decolonization and emancipation of once conquered colonial peoples.

Traditional Russian colonialism and imperialism did not disappear with the advent of the Bolsheviks in Russia in 1917. That revolution changed only the form, not the substance, of the Russian colonialism.

A great American statesman, former Secretary of State Dean Acheson, appearing before a Congressional Committee on June 28, 1951 in Washington, delivered a classic definition of the Russian empire:

"...Historically, the Russian state has had three great drives — to the west into Europe, to the south into the Middle East, and to the east into Asia. Historically, also, the Russian state has displayed considerable caution in carrying out these drives... The Politburo has acted in the same way. It has carried on and built on the imperial tradition. What it has added consists mainly of new weapons and new tactics... The ruling power in Moscow has long been an imperial power and now rules a greatly extended empire. This is the challenge our foreign policy is required to meet. It is clear that this process of encroachment and consolidation by which Russia has grown in the last five hundred years from the Duchy of Moscow to a vast empire has got to be stopped."

Freedom, national independence and human rights are the highest values and objectives of every civilized nation and people in the world. Although these have been enunciated in the U.N. Charter, Covenants, Declarations and Resolutions and applied by the United Nations since 1946 to many colonial nations and peoples in Africa, South Asia and Central America, they have never been applied directly by the United Nations to Eastern Europe, North and Central Asia, especially to the 34 distinct nations and peoples under the totalitarian domination of the Soviet Union.

For sheer mockery, we need only regard the role of the Soviet Union in the decolonization program of the United Nations. Moscow has been a staunch advocate and, in fact, an ardent exponent of the dismemberment of the Western colonial empires (British, French, Dutch, Belgian, and Portugese). It is equally vocal in denying that it itself is the last colonial empire in the world.

Hence this task — the peaceful decolonization of the Soviet Russian empire — falls squarely on the shoulders of the nations of the Third World, because it is they who are the principal beneficiaries of the U.N. decolonization program.

*Conference of Free Byelorussians*
Dr. B. Ragula, President

*The Estonian World Council*
Harald Raudsepp, President

*World Federation of Free Latvians*
Dr. I. Spilners, President

*Lithuanian(Zhamoyc) World Community*
V. Kamantas, President

*Turkestan National Organization*
Seyit Sultan Mansur, President

*World Congress of Free Ukrainians*
Mykola Plawiuk, President

**The Byelorussian Times**
ЧАС
Двухмоўны беларускі часопіс у З.Ш.А.
**USPS 345-170**
9-06 Parsons Blvd.
Flushing, N.Y. 11357
U.S.A.
A Byelorussian Newspaper
Published bimonthly in January, March, May, July, September and November.
**Dr. Roger Horoshko, Publisher**
**Annual Subscription**
$6 in U.S. currency
$9 Canadian, £6 English
**Postmaster:**
Send address changes to the BYELORUSSIAN TIMES
Box 141, Whitestone, N.Y. 11357
**Second Class Postage Paid at Flushing, N.Y. 11355**
„ЧАС"
Двумоўная
беларуская газэта
Выходзіць 6 разоў на год у студзені, сакавіку, травені, ліпені, верасьні й лістападзе.
Др. Р. Гарошка, Выдавец
Гадавая Падпіска
6 амэрыканскіх даляраў
9 канадыйскіх даляраў
6 ангельскіх фунтаў

## АД РЭДАКЦЫІ

(1) Некаторыя нашыя падпісчыкі думаюць, што яны могуць аплаціць падпіску калі йм хочацца йгнаруючы просьбы аб аплаце падпіскі. Рэдакцыя паведамляе, што згодна законаў якія рэгулююць выхад газэты *Беларускі Час* мы ня можам высылаць газэты дарэмна. Дзелягэтага, пасьля пэўнага часу, неаплачаныя падпіскі будуць стрыманыя.

(2) Аплату за падпіску з замежных краінаў просім прысылаць банкавым або паштовым чэкам у амэрыканскіх далярах і ў ніякім выпадку асабістым чэкам. У Ню Ёрку асабістыя замежныя чэкі трацяць ад 20% да 65% сваёй вартасьці пры замене на даляры.

### У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ

Дзеля вялікай колькасьці матэрыялу прысланага да рэдакцыі нашымі карэспадэнтамі мы былі змушаныя адлажыць наступныя артыкулы да наступнага нумару:

(1) „Тыдзень паняволеных народаў у Дытройт, Мічыган".

(2) „Парафіяльнае сьвята ў прыходзе Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне".

(3) „More on the Captive Nations Week observance in New York".

## ПАПРАЎКІ

У артыкуле „Да паходжаньня Літвы", *ЧАС* № 25–26, закраліся друкарскія памылкі: (1) На б.8, калонка 3, радок 22 зьверху — „клецкае Volcae", трэба — „кельцкае Volcae". (2) На б.9, калонка 1, 12-ы радок зьверху — „Пралямэй", трэба — „Пталямэй". (3) Там-жа, 13-ты радок зьверху — „памяшаў", трэба — „памяшчаў". (4) На б.9, калонка 2, радок 35 зьнізу — прапушчаны словы „вось-жа я знайшоў". (5) На б.9, калонка 3, радок 3 зьверху — „У сучаснай славянскай мове", трэба — „У сучаснай славенскай мове".





### „Беларускі ЧАС"
### Газэта Беларусаў у Англамоўным Сьвеце

У 1975 годзе пачала выходзіць новая двумоўная газэта *Беларускі ЧАС* узяўшы на сябе абавязак запоўніць адсутнасьць беларускай палітычнай прэсы асабліва ў ангельскай мове. Паступова, газэта *Беларускі ЧАС* пачала абслугоўваць ня толькі беларускія асяродкі ў ЗША і Канадзе але й Беларусаў у іншых частках англамоўнага сьвету, галоўна ў Аўстраліі й Вялікабрытаніі.

Газэта *Беларускі ЧАС* засталася да сяньня адзінай беларускай нацыянальна-палітычнай газэтай у англамоўным сьвеце якая ня баячыся піша праўду аб беларускай слаўнай мінуўшчыне, бязсорамна змагаецца з расейскім імпэрыялізмам і расейскім каленіялізмам і вядзе барацьбу за аднаўленьне ўлады Беларускай Народнай Рэспублікі на бацькаўшчыне. Унікальная роля *Беларускага ЧАСУ* на столькі важная, што кожны чалавек, Беларус або не-Беларус, зацікаўлены справамі Беларусі й суседніх народаў павінен яе чытаць і выпісваць.

Сяньня вакол газэты *Беларускі ЧАС*, апрача йншых, гуртуюцца лепшыя спэцыялісты з галінаў гісторыі, палітыкі, сацыялёгіі, філялёгіі, архіялёгіі й іншых галінаў патрэбных надаць газэце аўтарытэтны нацыянальна-палітычны характар.

Калі Вы яшчэ ня выпісываеце газэты *Беларускі ЧАС*, каліласка выпаўніце форму паданую ніжэй і прышлеце да рэдакцыі разам з чэкам на 6 амэрыканскіх даляраў за падпіску на адзін год.

---

**New Subscribers or Renewals**

[ ] Send me one year (6 issues) of the "Byelorussian Times" for $6

[ ] Two years for $12 U.S.

Name ..........................................................................

Address ......................................................................

..................................................................................

Mail to: THE BYELORUSSIAN TIMES, P.O. Box 141, Whitestone, N.Y. 11357
Send currency in U.S. funds only.
For air mail overseas add $6 a year.